


Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

26 студзеня 2018 года №4 (1187)

# Футбольныя жарсці: ФК "Чысць" і ФК "Маладзечна" аб'ядноўваюцца?

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Яхнавец, злева, на ўганараванні каманды з Чысці ў лістападзе 2017 года паабяцаў дырэктару ФК "Чысць" Мікалаю Мятліцкаму, што падтрымае каманду.

старонка 22



## Каляндар садавода і агародніка-2018

старонкі 20-21

## Вакансіі: даяркам прапануюць большы заробак, чым менеджэру з досведам працы ў IT-сферы

старонка 3

# “Штадлеры” ў Маладзечна не вернуцца, затое білет можна будзе купіць па тэлефоне



Кіраўніцтва чыгункі: злева направа Ларыса Дубовік, Валеры Калюжны і Віктар Ціхановіч.





Пасажыраў цікавілі розныя пытанні: і расклад цягнікоў, і камфорт у дарозе.

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці пусцяць дадатковы цягнік з раніцы на Мінск? Чаму ў вагоне аб’ява пра камеры назірання ёсць, а камер няма? Чаму пасажыры з “Фестывальнага” не паспяваюць купіць білет на цягнік? Навошта перавялі цягнік на Гудагай на зімовы час? Усімі гэтымі пытаннямі маладзечанцы літаральна засыпалі прадстаўнікоў Беларускай чыгункі, якія ў чацвер, 18 студзеня, сустрэліся з пасажырамі.**

На пытанні зацікаўленых маладзечанцаў адказвалі першы намеснік начальніка УП “Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі” **Віктар Ціхановіч** і начальнік аддзела арганізацыі пасажырскіх перавозак **Валеры Калюжны**. А таксама начальнік чыгуначнага вакзала ў Маладзечне **Ларыса Дубовік** і начальнік вузлавой памежнай станцыі Маладзечна **Віктар Малайчук**.

### Змянілі расклад электрацягніка, і людзі не паспяваюць на работу

Электрацягнік на Гудагай адпраўленнем у 8:32 з Маладзечна стаў прычынай нязручнасці для настаўніц, якія працуюць у Заскавічах. Заняткі ў школе пачынаюцца ў 9:00, і яны не паспяваюць на першы урок. Да гэтага ж, кажуць наведніцы, цягнік адпраўляўся ў 7:40. І гэта было зручна і работнікам заскавіцкай школы, і настаўніцам, і выхавальніцам з Турэц-Баяраў, работнікам калгаса і амбулаторыі і тым, хто працуе на вытворчасці вокнаў.

Кіраўніцтва чыгункі прапанавала звярнуцца да аўтамабільных перавозчыкаў, бо кіроўцам маршрутных таксі прасцей змяніць свой расклад, чым змяніць яго чыгунцы, аднак жанчыны адказалі, што першая маршрутка на Астравец ідзе толькі пасля дзевяці гадзін раніцы.

– Мы запісалі вашу прапанову. Я думаю, што гэта тэма для абмеркавання ў большай ступені мясцовых уладаў і нас. Як толькі знойдзем рашэнне, агучым яго ў сябе на сайце, – адказаў Валеры Калюжны.

### “Штадлераў” няма і не будзе

Вось так катэгарычна адказала на пытанне кіраўніцтва чыгункі.

– У наяўнасці цягнікоў “Штадлер” усяго 16 у краіне, – кажа Віктар Ціхановіч. – Іх пусцілі на маршруты больш запатрабаваныя, чым Маладзечна. Калі адбылася электрыфікацыя ўчастка Маладзечна-Вільня, “Штадлеры” пусцілі на Вільню. Адзін такі цягнік сёння каштуе каля 10 мільёнаў еўра. Каб закупіць іх, трэба, каб чыгунка прыносіла прыбытак. А электрацягнік Мінск-Маладзечна, да прыкладу, сёння акупляецца толькі на 13%.

### На “Фестывальным” касіркі не паспяваюць прадаваць білеты

Наступная наведніца абуралася тым, што на прыпынку “Фестывальны” не паспяваюць касіркі раніцай прадаваць білеты, людзі садзяцца без білетаў у цягнікі, дзе іх “шчэмяць” кантралёры.

На такую заўвагу Валеры Калюжны адказаў:

– Усе адгаворкі, што не паспелі купіць білет, кантралёру не хваляюць. Так як у магазіне вам без грошай не прададуць тавар, так і электрычка. Не купілі білет, не садзіцеся ў яе. Беларуская чыгунка прапаноўвае вам такую паслугу, як набыццё білета на праезд за 10 сутак да вашай паездкі. Не паспяваеце раніцай купіць білет – купіце праязны.

**У бліжэйшы час Беларуская чыгунка запусціць мабільны дадатак, дзе можна будзе набываць праязныя дакументы праз тэлефон.**

### Таблічкі пра тое, што вядзецца відэаназіранне ёсць, а камер няма

Гэта ж наведніца заўважыла, што ў вагонах электрычкі вісяць таблічкі пра тое, што вядзецца відэаназіранне, а камер няма. І ёй хацелася б, каб таблічкі не падманвалі пасажыраў. Бо на чыгунцы здараюцца розныя сітуацыі: і хуліганы, і курыльшчыкі едуць, а ніхто іх за гэта не пакарае.

На што Віктар Ціхановіч адказаў:

– Часам, нават наяўнасць простай таблічкі некаторых грамадзян перасцерагае ад учынення нейкіх злачынстваў.

### На Ліду ходзяць толькі тры дызелі

– А колькі трэба, – пытаецца кіраўніцтва чыгункі. – На сённяшні дзень гэты напрамак не запатрабаваны. Напаўняльнасць гэтага цягніка – 30% пасажыраў.

### Ці можна пусціць на Мінск хуткасную электрычку з раніцы?

– Скажыце, навошта дзве электрычкі ідуць з 10-хвіліннай розніцай, у 5:33 і 5:48, адна за адной? Што ў адной, што ў другой да Мінска ехаць дзве гадзіны. Для чаго гэта было зроблена? – пытаецца жанчына.

– А я вам растлумачу, – адказаў Валеры Калюжны. – Гэта было зроблена для таго, каб адвезці людзей на працу. Бо, акрамя жыхароў Маладзечна, ёсць яшчэ жыхары Крыніцы, Ушы, Баяраў. Хуткасная электрычка раніцай ёсць у графіку. Яна адпраўляецца з Маладзечна ў 7:11 і прыбывае ў Мінск у 8:34.

– Але, пагадзіцеся, у большасці працоўны дзень пачынаецца ў 8:00, – працягнула жанчына.

– Тут я з вамі не пагаджуся. І тыя электрычкі, якія ідуць раненька, і тыя, што прыбываюць у Мінск да 9:00, ідуць поўныя. У людзей у розных арганізацыях працоўны дзень пачынаецца ў розны час. Мы не можам падладзіцца пад кожнае канкрэтнае прадпрыемства. Вы хочаце больш хуткасных электрычак? Я ваша жаданне падтрымліваю, – падкрэсліў начальнік аддзела арганізацыі пасажырскіх перавозак, – але такой магчымасці пакуль няма.

### Да якой пары ў электрычках будуць працаваць гандляры і хадзіць жабракі?

– Для гэтай мэты існуе грамадзянская пазіцыя, – адказвае Валеры Калюжны. – У кожным вагоне ёсць тэлефоны падатковай. Тэлефануйце, скардзіцеся. Такія “пасажыры” таксама галаўны боль чыгункі. Але ў чыгункі няма паўнамоцтваў забараніць гандляваць у электрычцы. Мы перавозчыкі. А ў гандляроў, як правіла, ёсць праязны білет. Кантралёр праверыў білет і не мае права высадзіць гандляра. А правяраць мае права толькі падатковая.

Цікавіў маладзечанцаў і тэмпературны рэжым у электрычках, і магчымасць дакупіць білет да больш далёкай станцыі, калі змяніліся абставіны паездкі, і як працуе са зваротам грамадзян сайт Беларускай чыгункі. На гэтыя пытанні кіраўніцтва чыгункі адказала. Але ці зменіцца што для пасажыраў, пакажа час.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**

# Вакансіі: даяркам прапануюць большы заробак,

## чым менеджару з досведам працы ў IT-сферы

**У нашым рэгіёне 365 вакансій па стане на 24 студзеня.**

У агульнарэспубліканскім банку вакансій на сайце дзяржаўнай службы занятасці ёсць прапановы з аплатай да 100 рублёў з няпоўнай стаўкай, а ёсць з заробкам амаль у 1000.

**Самую высокааплатную прапанову мы знайшлі ў Смаргонскім раёне.**

### Маладзечна

На 24 студзеня актуальныя 85 вакансій. Пры выбары прапаноў за апошні тыдзень з'яўляецца 244 вакансіі, за апошні месяц было размешчана 369.

Прапануюць аплату працы ад 305 да 900 рублёў. Самая частая прапанова па раёне – ад 400 рублёў.

Самы нізкі заробак у спісе, 305 рублёў, прапануюць будучаму менеджару ў сферы рэкламы і продажаў Палаца культуры, повару Заскавіцкага дзіцячага садка-школы, прадаўцу таварыства "Фрутэгмілк" і сталяру палачанскай школы.

На пяць рублёў больш прапанова для сацыяльнага работніка, яшчэ на 20 – слесару лакаматыўнага дэпо.

Ніжэй за 400 рублёў абяцаюць аплату інспектару па кадрах таварыства "Юлайн", бухгалтару на перыяд дэкрэтнага адпачынку і дыспетчару раённай бальніцы, перакладчыку мовы жэстаў, работнікам лакаматыўнага дэпо.

Ад 400 рублёў прапануюць загадчыку аддзялення цэнтра сацабслугоўвання, інжынеру-электрыку ў Селеўцах, менеджару з досведам працы ў сферы інфармацыйных тэхналогій у Палацы культуры, жывёлаводу ў Сасновым Бары.

500 рублёў будзе зарабляць трактарыст і аператар машыннага даення ў Хажове, касір чысцінскага магазіна. 550 – аператар кацельні і машыністы.

Ад 600 рублёў заробак памочнікаў машыніста і кіроўцы водаканала.

Самая высокааплатная вакансія – прапанова ў 900 рублёў – для машыніста лакаматыўнага дэпо.

### Вілейка

Для Вілейскага раёна 24 студзеня размешчана 13 прапаноў.

Найменшы, у 165 рублёў, прапануюць ветэрынарам райветстанцыі за 0,5 стаўкі. Касіра краязнаўчага музея шукаюць на 305 рублёў.

Да 400 рублёў для повара Людвіноўскай школы, ветэрынарным дактарам з досведам працы ад пяці год.

400 рублёў заробку атрымае повар вілейскай гімназіі "Логас". Ад 500 заробяць інжынеры фабрыкі дзвярэй "Лаза".

Самая высокааплатная прапанова чакае галоўнага дзяржаўнага інспектара райветстанцыі – ад 700 рублёў.

### Валожын

Для валожынцаў прапаноў на 24 студзеня не было.

### Мядзел

Адзіная прапанова – вакансія майстра лесу Нацпарку "Нарачанскі" з заробкам ад 430 рублёў.

### Ашмяны

У Ашмянскім раёне шукаюць сем спецыялістаў.

305 рублёў абяцаюць паштальёну і аператару сувязі, а таксама падсобнаму рабочаму аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама. На пяць рублёў болей заробіць падсобны рабочы таварыства "Унісон груп". У аддзеле ідэалогіі патрабуецца таксама начальнік групы па гаспадарчым абслугоўванні, які атрымае 362 рублі.

Самая высокааплатная вакансія раёна – 500 рублёў – для галоўнага інжынера прадпрыемства "Граўжышкі".

### Смаргонь

259 вакансій чакае спецыялістаў у Смаргонскім раёне. Аднак гэта лічба нязначна мяняецца пры выбары вынікаў за тыдзень ці месяц – расце да 292. Паводле банка, тут не так хутка абнаўляюцца вакансіі, як на Маладзечаншчыне.




У Смаргонскім раёне ёсць прапановы да 100 рублёў для работнікаў на 0,25 стаўкі – правізар, фармацэўт, культарганізатар.

Ніжэй за 200 рублёў прапануюць вакансіі з паловай стаўкі для метадыста, педагога, кладаўшчыка, повара, слесара, правізара, інжынера-тэхнолага камбіната бытавога абслугоўвання.

**Сольская школа шукае педагога-псіхолага за 265 рублёў з веданнем англійскай мовы.**

305 рублёў прапануюць па 37 вакансіях. Сярод іх – вартаўнік, прадавец, муляр, дворнік, школьны псіхолаг, акампаніятары, баец жывёлы, ветэрынар, аператар машыннага даення і іншыя.

Ад 305 да 400 рублёў будуць атрымліваць начальнік аддзялення сувязі, інжынер, трактарыст-машыніст, прараб, адміністратар гасцініцы, сацработнік, электрагазазваршчык, загадчык аптэкі, аграном.

400 рублёў заробяць аграном камбіната хлебапрадуктаў, ветэрынар "Шутавічы-Агра", педыятры і стаматолагі, майстар лесу, слесары. Такі ж заробак прапануюць электраманцёрам па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання лясгаса і таварыства "Кронаспан". Толькі апошняе дадаткова хоча, каб кандыдат меў досвед ад трох год і валодаў англійскай і нямецкай мовамі.

Настаўніку матэматыкі у СШ №3 прапануюць 412 рублёў, загадчыку аптэкі 429 рублёў, інжынеру "Смаргоньсілікатабетону" – 450.

Ад 500 рублёў будзе заробак бухгалтара прадпрыемства "Крэва", інжынера-электрыка на "Кронаспане", спецыяліста аддзела па надзвычайных сітуацыях, электрамеханіка.

600 рублёў заробяць даяр і трактарыст прадпрыемства "Крэва". 700 – дырэктар прадпрыемства "Савбел-2016", кіроўца аўтапарка, электраманцёр ЖРЭУ.

Вальшчык лесу і машыніст крана атрымаюць 800 рублёў.

Самы высокі заробак будзе мець галоўны інжынер мясцовага філіяла "Лідскага малочнакансервавага камбіната" – 995 рублёў.

### АСТРАВЕЦ

На Астравеччыне шукаюць толькі палявода для прадпрыемства "Гудагай" з заробкам ад 305 рублёў.

Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.01 | 25.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9963 | **1,9802** |
| Еўра | 2,4410 | **2,4394** |
| Злоты, 10 | 5,8530 | **5,8668** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,5286 | **3,5118** |
| Грыўня, 100 | 6,9570 | **6,8709** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 17.01 | 24.01 |
| Еўра | 2.4350/2.4500 | **2.4250/2.4400** |
| Долар ЗША | 1.9900/2.0020 | **1.9790/1.9870** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 17.01 | 24.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16.95 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **1,00** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 5,70 | **3,99** |
| Баклажаны, 1 кг | 10,00 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **-** |
| Буракі, 1 кг | 0,65 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,99** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,20** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **2,40** |
| Вінаград, 1 кг | 4,70 | **4,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,80 | **3,70** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,90** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **4,30** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

НАВІНЫ

## Запрашаюць на прыём у Следчым камітэце

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 11 да 13 гадзін у пятніцу, 9 лютага, пройдзе прыём намесніка начальніка Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Аляксея Сяргеевіча Сычова**.

Прыём адбудзецца па вуліцы Прытыцкага, 23.

Запрашаюць грамадзян, індывідуальных прадпрымальнікаў і прадстаўнікоў юрыдычных асоб.

Папярэдне запісацца можна 7 і 8 лютага ад 10 да 13 гадзін па тэлефоне **(80176) 77-44-21.**

Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага РАСК, маёр юстыцыі.

## Каля вёскі Літва цягнік насмерць збіў 41-гадовага мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

На чыгунцы ля вёскі Літва 16 студзеня загінуў 41-гадовы вясковец.

Пра гэта ў дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС паведамілі пасля 19:00.

Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што мужчыну, жыхара вёскі Літва, смяротна траўмаваў цягнік "Гродна-Мінск", які праходзіць тут у 19:00.

Па словах старшага следчага РАСК **Юрыя Багушэвіча**, ускрыццё паказала, што мужчына на момант наезду быў моцна п'яны.

## Хлеў патушылі, свойская жывёла не пацярпела

ВІЛЕЙКА

18 студзеня ў 6:12 у РАНС Вілейкі патэлефанавалі і паведамілі, што гарыць хлеў у Любані.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што гарыць дах хлява. Гаспадар з гаспадыняй ужо тушылі яго. Выратавальнікі далучыліся да іх. Пажар патушылі.

Як распавялі гаспадары, жанчына раніцай, пасля пяці гадзін, пайшла даіць карову. Заўважыла, што з-пад даху хлява ідзе дым. Паклікала гаспадара, яны разам пачалі тушыць. Муж скідаў з гарышча салому на снег, жонка тушыла яе на зямлі.

У хляве было шмат свойскай жывёлы: карова, свінні, куры. Але ніхто з іх не пацярпеў.

У РАНС распавялі, што дзякуючы своечасовым дзеянням гаспадароў, пацярпеў толькі дах, згарэла салома на гарышчы. Агонь не перакінуўся на іншыя будынкі, амаль не пашкодзіў сцены.

Прычыну пажару высвятляюць.

Аксана ЯРАШОНАК.



## З пажару ў маладзечанскай шматпавярхоўцы выратавалі мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

21 студзеня каля 17:00 пачаўся пажар у адным са шматпавярховых дамоў у шостым мікраёне па Вялікім Гасцінцы.

На другім паверсе загарэлася кватэра, дзе жыла сям'я. На момант пажару ў кватэры былі гаспадыня, яе муж, сын і знаёмая. Як паведамляе сайт МНС, 32-гадовага сына гаспадыні выратавальнікі знайшлі ў адным з пакояў і вынеслі на свежае паветра. Астатнія трое самі пакінулі кватэру яшчэ да прыбыцця супрацоўнікаў МНС.

Усе цяпер у бальніцы.

Па словах сведак, пажары ў гэтай сям'і адбываліся ўжо неаднойчы. На гэты раз пацярпелі і кватэры суседзяў.

Прычыну высвятляюць. Разглядаюць неасцярожнасць падчас курэння.

Паводле сайта МНС.

## Шукаюць паляўнічага, што кінуў забітую казулю

МАЛАДЗЕЧНА

Тушу казулі са следам пулявога ранення ў правую верхнюю лапатку знайшлі 11 лістапада каля вёскі Баяры Красненскага сельсавета.

Калі вы штосьці ведаеце пра паляванне на казулю ці людзей, якія маглі паляваць у раёне садовага таварыства "Зорачка", просім звярнуцца ў Следчы камітэт. Тэлефон **(80176) 77-06-45** працуе ад 9 да 18 гадзін па рабочых днях. Можна прыйсці ў райаддзел па адрасе: вуліца Прытыцкага, д. 23, каб. 211.

Аляксандр КРУКОЎСКІ, следчы Маладзечанскага РАСК, падпалкоўнік юстыцыі.

# Маральную шкоду выплаціць гаспадарка "Хоўхлава" і школа №11

МАЛАДЗЕЧНА

**Суд вынес рашэнне па іску Алега Папчэні, бацькі 14-гадовай школьніцы, якая загінула на ўборцы бульбы ў 2016 годзе.**



Суд задаволіў іск Алега Папчэні (другі справа). Сям'я атрымае 50 тысяч рублёў.

Алег Папчэня выйграў іск. Згодна з рашэннем, 50 тысяч, якія патрабаваў бацька дзяўчынкі за маральную шкоду, заплацяць таварыства "Хоўхлава" і сярэдняя школа №11.

Рашэнне суддзя **Ігар Гарановіч** зачытаў 19 студзеня са спазненнем амаль на паўгадзіны. Школа, у якой вучылася дзяўчынка, заплаціць па 7 500 рублёў кожнаму з бацькоў. А акцыянернае таварыства "Хоўхлава", якому належаў МАЗ, што наехаў на дзяўчынку, – па 17 500.

Адказчыкаў па іску было больш. Акрамя двух названых, акцыянернае таварыства "Усход-Агра", на полі якога дзяўчынка працавала і загінула, аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама. У якасці суадказчыкаў суд прыцягнуў да адказнасці кіроўцу МАЗа **Паўла Цыбіна** і настаўніц школы №11, якія былі на полі з дзецьмі, **Вольгу Завадскаю** і **Ірыну Апанасевіч**. Але ўсе яны выплачваць кампенсацыю не будуць.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Следчыя ўстанаўліваюць пацярпелых ад ашуканскіх дзеянняў – маладзечанец угаворваў знаёмых аформіць пакупкі ў растэрміноўку

МАЛАДЗЕЧНА



Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў шэраг крымінальных спраў аб махлярстве ў дачыненні да **Кірыла Вячаслававіча Капцюга** (на фота).

Па дадзеных следства, 25-гадовы раней судзімы жыхар Маладзечна шляхам падману і злоўжывання даверам угаварыў знаёмых аформіць на сваё імя пакупкі розных тавараў у растэрміноўку, абяцаючы пагашаць усе плацяжы.

Ён увёў іх у зман адносна сваёй плацежаздольнасці. Па просьбе фігуранта знаёмыя ставілі свае подпісы ў дагаворах растэрміноўкі на куплю мабільных тэлефонаў, ацяпляльнага абсталявання, камп'ютарных крэслаў і іншых тавараў.

Не маючы намеру выконваць узятыя на сябе абавязацельствы, падазраваны распараджаўся ўсёй маёмасцю па сваім меркаванні і плацяжы не ажыццяўляў. Усе прэтэнзіі сталі пастулаць грамадзянам, якія афармілі на сваё імя афіцыйныя дакументы.

Следства мае дадзеныя аб сямі фактах ашуканскіх дзеянняў.

Грамадзяне, якія пацярпелі ад супрацьпраўных дзеянняў Кірыла Капцюга, могуць звяртацца ў Маладзечанскі РАСК па адрасе: г. Маладзечна, вул. Прытыцкага, д. 23, каб. 208, або па тэлефоне **8-0176-77-24-31**.

Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.

## На Вілейскім вадасховішчы ўчадзеў рыбак

ВІЛЕЙКА

22 студзеня ў Вілейскі РАУС патэлефанаваў мужчына і паведаміў, што на лёдзе загінуў яго айчым.

У РАСК Вілейкі распавялі, што трое мужчын прыехалі з Валожыншчыны на Вілейскае вадасховішча. Яны рыбачылі ля вёскі Нясцёркі, выпівалі.

Пасля двое мужчын пайшлі спаць у машыну, а адзін застаўся ў палатцы.

Ён грэўся газавай гарэлкай. Верагодна, смерць наступіла ад атручэння чадам.

У Вілейскай выратавальнай станцыі паведамілі, што памерлы мужчына – гэта першая ахвяра на лёдзе ў 2018 годзе.

Аксана ЯРАШОНАК.

## На пажары ў Вязынцы загінуў 63-гадовы мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

18 студзеня ў 11:20 пра пажар у Вязынцы паведаміла сястра гаспадара.

– Я прыехала да брата, – распавяла жанчына. – Не магла трапіць у хату, яна была зачыненая знутры. Падручнымі сродкамі адчыніла дзверы. Да таго, як увайшла, не бачыла ні дыму, ні агню. Але пакой, дзе знаходзіўся брат, быў поўны дыму.

Да прыбыцця выратавальнікаў жанчына сама патушыла анучы ў пакоі ля ложка. Супрацоўнікі МНС, якія прыбылі на месца, знайшлі на ложку загінулага мужчыну.

Прычыну пажару будзе высвятляць РАСК Маладзечанскага раёна. Верагодна, гэта неасцярожнасць падчас курэння. Матэрыяльная шкода нязначная.

63-гадовы мужчына стаў сёлета першай ахвярай агню на Маладзечаншчыне.

**МНС нагадвае асноўныя правілы пажарнай бяспекі:**

- печы і коміны неабходна прачысціць, адрамантаваць і пабяліць, заладзіць расколіны.
- нельга прымяняць для распальвання печаў гаручыя, лёгка- і самаўзгаральныя вадкасці.
- на драўлянай падлозе перад топачнай адтулінай неабходна прыбіць металічны ліст памерамі не менш як 50 на 70 сантыметраў.
- каб не дапускаць перагрэву печы, рэкамендуецца паліць яе два-тры разы на дзень і не больш чым па паўтары гадзіны
- за дзве гадзіны да таго, як пайсці спаць, трэба перастаць паліць печ. Гэта прадухіліць рызыку атручэння чадным газам.
- Рэкамендуем усталяваць аўтаномны пажарны апавяшчальнік, ён загадзя папярэдзіць вас аб пажары. Ніколі не пакідайце дзяцей без нагляду. Захоўвайце запалкі ў недаступных для іх месцах.
- І памятайце: самай распаўсюджанай прычынай пажараў з гібеллю людзей з'яўляецца курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі РАНС.

# Маладзечанскі хлебазавод: час вяртацца да традыцый

Так лічаць на маладзечанскім хлебазаводзе, дзе ўжо 74 гады нязменна выпускаюць смачны, духмяны, натуральны хлеб, булкі і кандытарскія вырабы.

– Хіба ёсць што-небудзь смачнейшае за гарачы бохан чорнага хлеба, з’едзены разам са шклянкай цёплага малака? – пытаецца вядучы інжынер па якасці маладзечанскага хлебазавода Ала Васілеўская.

А да малака, тут, сапраўды, ёсць што прапанаваць.

– Сёлета наш хлеб “Маладзечанскі падарунак” атрымаў Гран-пры І ступені ў ліку іншых 18 найменняў нашай прадукцыі на рэспубліканскім аглядзе якасці хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў “Смаката-2017”. Наш хлеб не сорамна прэзентаваць замежным сябрам, бо ён выпускаецца ў боханах вагой 2,4 кілаграма. Але галоўнае, чым мы ганарымся – гэта традыцыйным вырабам хлеба на густой і вадкай заквасцы. На густой заквасцы хлеб робяць усяго некалькі прадпрыемстваў у краіне. Выраб хлеба – доўгі працэс. Ад таго, як робіцца закваска, і да таго, як хлеб трапляе на паліцы магазінаў, праходзяць цэлыя суткі. Да гэтага закваска закісае, потым замешваецца цеста, пасля яно дзеліцца на часткі, і толькі потым цеста адпраўляецца ў печ.

> Сённяшні штодзённы аб’ём прадукцыі, якая сыходзіць з канвеераў хлебазавода, – 30 тон хлеба і булачак і 400 кілаграмаў кандытарскіх вырабаў.

І булачкі, і батоны таксама вырабляюцца на рошчыне.

Асаблівы гонар для маладзечанскага хлебазавода ў тым, што іх прадукцыя носіць мясцовыя “маладзечанскія” назвы.

– Хлеб “Вялікі Гасцінец”, “Маладзечанскі”, цэлая лінейка булачак “Геляноўскіх” – гэта даніна павагі і гораду, і яго жыхарам, якія ва ўмовах такой жорсткай канкурэнцыі ўсё ж абіраюць нашу прадукцыю. Што датычыцца кандытарскіх вырабаў, то тут у любога, нават самага спакушанага пакупніка, разбягуцца вочы. Торты, бісквіты, пернікі, кексы, безэ, рулеты, пірожныя, слойкі, сухарыкі, пячэнне, з ізюмам, чарнаслівам, какавай, арэхамі – усёй смакаты ў адным сказе не пералічыць.

– Пры гэтым, мы імкнёмся ісці ў нагу з часам, штогод выпускаем да 10 новых уласных найменняў прадукцыі. Але наэксперыментаваўшыся са смакам, я думаю, людзям хочацца стабільнасці і ўпэўненасці ў тым, што вось ты купіш торт і дакладна будзеш ведаць, які смак цябе чакае. Таму нязменна папулярнасцю карыстаюцца нашы торты, рэцэптура якіх не мяняюцца ўжо не адно дзесяцігоддзе: “Ленінградскі”, “Кіеўскі”, “Птушынае малако”, “Грыбочкі”, “Напалеон”, “Казка”.



Прадаўцы фірменнага магазіна “Водар хлеба”, злева направа, Антаніна Амбражэвіч, Дзіяна Лукашэвіч і Іна Паукшта заўсёды сустракаюць пакупнікоў з усмешкай.

Аднак і новыя торты, такія як “Барыня”, “Барскі пачастунак”, “ Вішнёвы лёд”, “Імператрыца”, “Анжаліка” , “Шакаладны пацалунак”, таксама займелі сваіх аматараў.

– Зноў хачу падкрэсліць натуральнасць нашых тортаў. Мы выкарыстоўваем яйкі, а не яечны парашок, дадаём сапраўднае масла, а не пальмавы алей. І тэрмін прыдатнасці гэтых тортаў усяго трое сутак.

Маладзечанскі хлебазавод прапаноўвае таксама выраб тортаў на замову.

– Любой вагі, з любым упрыгажэннем, нават 3Д торты мы можам зрабіць. А нашы пекар **Ала Гарох** і кандытар **Вераніка Разнічэнка** – нязменна залатыя медалісткі ў спаборніцтвах прафесіяналаў.

Таму, калі вы хочаце пачынаць раніцу з паху свежага хлеба, а да кавы аддаяце перавагу любімай з дзяцінства “Карзіначцы”, то прадукцыя маладзечанскага хлебазавода – гэта тое, што вам трэба, каб дзень быў заўсёды добрым.



# Аб якасці пітной вады ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне

**Лабараторныя даследаванні пітной вады, якія праводзіў Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, кажуць пра бяспеку вады ў эпідэмічным і радыяцыйным стаўленні.**

Асноўнай прычынай неадпаведнасці якасці водаправоднай пітной вады па санітарна-хімічных паказчыках з’яўляецца павышанае ўтрыманне ў ёй жалеза. Прычына – прыродныя ўласцівасці артэзіянскіх вод.

Амаль у палове артэзіянскіх свідравін у пітной вадзе адзначаецца павышанае ўтрыманне жалеза, што зніжае яе спажывецкія якасці.

Палепшыць якасць прыроднай артэзіянскай вады з павышаным утрыманнем жалеза можна на збудаваннях ачысткі (станцыях абезжалезвання) перад падачай у водаправодную сетку. У бытавых умовах можна адстойваць ваду на працягу некалькіх гадзін. За гэты час жалеза акісліцца і выпадзе ў асадак, пасля чаго ваду можна будзе ачысціць у простых бытавых фільтрах.

У цяперашні час на тэрыторыі Маладзечанскага раёна дзейнічаюць тры станцыі абезжалезвання: на водазаборах “Крыніца” і “Гелянова”. Там чысцяць ваду з 28 артэзіянскіх свідравін. А таксама ў пасёлку Чысць на водазаборы прадпрыемства “Забудова”.

Восем установак па абезжалезванні працуюць на чыгуначным вакзале ў Маладзечне, на артэзіянскай свідравіне ў Груздаве, на артэзіянскай свідравіне ў Раёўцы, на водаправодзе завода “Аквадзіў”. Сістэмы ачысткі таксама ёсць на водаправодах харчовых прадпрыемстваў “Маладзечнапіва”, “Амазон-Калары”, “Маладзечанскі малочны камбінат”.

Цягам 2017 года абсталяваныя дзве станцыі абезжалезвання, якія асобна стаяць на артэзіянскіх свідравінах: у Радашкавічах па вуліцы Срэбная і ў вёсцы Дубрава.

У 2017 годзе пачалася распрацоўка праекта станцыі абезжалезвання ў Палачанах. Будуюцца станцыі абезжалезвання ў Радашкавічах і ў Красным, якія пачнуць эксплуатавацца сёлета.



Архіў “РГ”.

Вада з шахтавых калодзежаў не заўсёды гарантаванай якасці.

Вада з шахтавых калодзежаў, дзе таксама праводзіўся маніторынг, не заўсёды гарантаванай якасці. За 2017 год выяўлены перавышэнні гігіенічнага нарматыву па змесце нітратаў у 39,7% даследаваных проб і ў 22,4% даследаваных проб па мікрабіялагічных паказчыках.

Уладальнікам шахтавых калодзежаў Маладзечанскі занальны ЦГЭ рэкамендуе перыядычна праводзіць кантроль якасці пітной вады. Пры выяўленні павышанага ўтрымання нітратаў выкарыстоўваць для піцця і прыгатавання ежы бутыляваную або водаправодную ваду.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

## Прадукты, якія заменяць анальгетыкі

Лёгкія болі, такія як галаўны, боль у суставах на надвор’е, спазмы падчас менструальнага цыкла, лёгка “прыбраць” з дапамогай простых прадуктаў харчавання.

### 1. Куркума

У куркуме змяшчаецца актыўны фермент куркумін, які з’яўляецца выдатным супрацьзапаленчым сродкам. Куркумін блакуе запаленне і супакойвае спадарожны яму боль. Навукоўцы пацвярджаюць, што па механізме ўздзеяння на арганізм куркумін падобны да ібупрафену, ён памяншае боль у суставах пры рэўматоідным артрыце, пры галаўным і нават лёгкім зубным болю.

### 2. Востры чырвоны перац

Чырвоны перац змяшчае такое рэчыва, як капсіцын. Яно шырока выкарыстоўваецца ў розных абязбольвальных мазях. Капсіцын разагравае балючае месца і тым самым здымае болевыя адчуванні і блакуе запаленчы працэс. Таксама вядома, што капсіцын абараняе ад запалення сценкі сасудаў, зніжаючы рызыку развіцця атэрасклерозу.

### 3. Імбір

Імбір можна знайсці як у выглядзе кораня, так і ў выглядзе спецыі або марынаванай закускі. Шматлікія даследаванні паказваюць, што імбір можа дапамагчы аблегчыць менструальныя болі, зняць галаўны боль (у тым ліку пры рэспіраторна-вірусных захворваннях), боль у горле, млоснасць, прыступ рэўматоіднага артрыту і астэаартрыту. Штодзённае ўжыванне 1 чайнай лыжкі імбіру (нацёртага, у выглядзе парашка – на кончыку нажа) зніжае частату з’яўлення пералічаных вышэй боляў на 25%.

### 4. Вада

Калі ў вас з’яўляюцца сутаргі ног або пульсуючы галаўны боль, асабліва ў душным або гарачым памяшканні, хутчэй за ўсё прычына ў абязводжванні і згушчэнні крыві. Паспрабуйце выпіць шклянку халоднай вады без газу, перш чым прымаць анальгетыкі. Цёплая вада дапамагае прыбраць болі ў жываце пры менструацыях. Яна расслабляе тканкі маткі, тым самым памяншаючы спазм.

**Паводле сайта Медыцына 2.0.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Вольва S60, 2002 г.в., 2,4 бензін, аўтамат. Т. (8-029) 3523694.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс MB 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• ФВ-Турон, 2007 г.в., 1,9 ТДІ, 77 кВт, сіні, добры стан. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7580842.

• Скутар Вайбер Актыў, 100 см$^3$, 2-мясцовы. Т. (8-044) 4703638.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 40 000 рублёў. Т. (8-029) 1679230.*

• 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра на другім паверсе па вул. Вольнай у Маладзечне. Т. (8-029) 5086693, (8-0176) 531545.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Рабочай. Пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 8558089.*

• Дом у в.Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом жылы ў в. Кавалі Ільянскага с/с Вілейскага раёна. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, лазня, калодзеж. Т. (8-033) 6611354, (8-029) 8525536.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы па вул. Стаханаўскай, 249. Т. (8-029) 7656724.

• Участак 10 сотак у Вілейцы. Т. (8-029) 8570225.*

### ЗДАМ

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

• Здаецца ў арэнду гараж у ГК № 12 (святло, яма, сцелажы). Т. (8-044) 7905168, (8-029) 5084439.



## ПАСЛУГІ

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*



**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

**Мэбля**

• Шафу трохстворкавую з антрэсоллю, б/у. Нядорага. Т. (8-029) 7653562, МТС.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты белыя. Т. (8-029) 1467869, (8-029) 9073963.*

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя, 40 см. Т. (8-029) 6319537.*

• Ванна чыгунная 70х170 б/у, дзверы металічныя б/у з рамай. Т. (8-029) 8644845.*

• Распродаж: склад вокнаў ПВХ. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5045554.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі «Буды». Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Купляе калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Бульбу буйную. Т. МТС (8-029) 2582070.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Куплю шкуркі куніцы, выдры. Т.(8-029) 8552646.*

# Як рыхтаваць дзіця да школы

**Ад таго, як вы падрыхтуеце дзіця да школы, залежаць паспяховасць дзіцяці, стараннасць і жаданне вучыцца.**

Акрамя ведання лічбаў і літар, ёсць больш важныя рэчы, што часам выпускаюць з-пад увагі бацькі. Гэта вуснае маўленне дзіцяці, і менавіта ад яго залежыць, ці лёгка дзіця навучыцца чытаць.

Дашкольнікі павінны навучыцца правільна і выразна вымаўляць гукі, чуць і адрозніваць гукі, якія вымаўляе суразмоўца. Навучыце сына ці дачку адрозніваць галосныя і зычныя гукі, мяккасць і цвёрдасць, звонкасць і глухасць. Важна, каб будучы першакласнік умеў правільна будаваць простыя сказы, пераказваць невялікія апавяданні, самастойна складаць апавяданне-апісанне. Дзіцяці павінна хапаць слоўнікавага запасу, каб свабодна размаўляць. Калі ж які-небудзь з бакоў маўлення недапрацаваны, гэта непазбежна прывядзе да складанасці ў навучанні, а ў наступным і да нежадання вучыцца.

Самыя распаўсюджаныя парушэнні звязаныя з памылкамі ў вымаўленні гукаў. Поўныя гукавыя замены недапушчальныя. Калі ваша дзіця гаворыць "сапка" замест "шапка", неабходна працаваць, каб выправіць гэты хіб.

Сачыце, каб дзіця дакладна распазнавала гукі. Трэба, каб хлопчык ці дзяўчынка маглі пазнаць кожны гук слова і пазначыць адпаведнай літарай. Калі некаторыя літары падаюцца аднолькавымі, гэта непазбежна вядзе да памылак. Не адрозніваючы "б" і "п", дзіця не будзе бачыць розніцы паміж словамі "бабка" і "папка".

У дзіцяці 6-7 гадоў слоўнікавы запас павінны складаць не менш за 2000 слоў і ўтрымліваць асноўныя часціны мовы: назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, прыслоўі, прыназоўнікі, злучнікі. Выхоўвайце ўвагу і цікавасць да гучання слова. Калі разглядаеце карцінкі ці чытаеце кнігі, звяртайце ўвагу на цікавыя моўныя звароты, пытайцеся, што значыць тое ці іншае слова.

Добра дапамагаюць развіваць маўленне слоўныя гульні. Імі зручна бавіць час у дарозе.

Прыклады гульняў у словы:

- намалюй словамі пару года,
- прыдумай рэкламу прадмету, расказаўшы як мага больш якасцяў,
- за хвіліну прыдумаць як мага больш слоў, якія характарызуюць жывёліну, птушку ці расліну,
- слова "наадварот" – няхай дзіця прыдумвае антонімы (холадна-горача, цёмна-светла, высока-нізка),
- назваць як мага больш прадметаў аднаго колеру (жоўты – сланечнік, сонейка, лімон, сыр).

Праверце, наколькі дакладна дзіця апелюе прасторавымі паняццямі – унутры, над, пад, знізу, зверху, паміж, злева, справа. Пагуляйце так: кладзіце прадмет у розных месцах, каб дзіця называла, дзе ён (злева ад кнігі, пад тэлевізарам).

Часцей шчыра размаўляйце, каб дзіцяці хацелася падзяліцца ўражаннямі ад мульціка ці прагулкі. Не спяшайце сказаць за яго, дайце магчымасць самастойна сфармуляваць думкі. Калі вучыце вершы і песенькі, сачыце, каб сын ці дачка дакладна разумелі, пра што яны. Прыдумвайце рыфмы і смешныя гісторыі, вучыце прыказкі і прымаўкі, адгадвайце загадкі.

Сачыце за сваім маўленнем, няхай яно будзе правільным і выразным, гэта стане лепшым узорам.

**Марына ТАРАШКЕВІЧ, настаўніца-дэфектолаг маладзечанскіх яслаў-садка №16.**

## Дасылайце бланкі, каб планшэт трапіў менавіта вам

**Вам ёсць 12 год, вучацеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Чаго ж вы чакаеце, далучайцеся да акцыі "Дзясятачка"!**

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі, якім ёсць 12 год, любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа. Вы можаце даслаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за навучальны 2017-2018 год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№4)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")____________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка________________________

НАВІНЫ

## "Белтэлекам" павялічыў максімальную суму абяцанага плацяжу

Сёлета ад 20 студзеня нацыянальны аператар электрасувязі "Белтэлекам" павялічыў максімальную суму абяцанага плацяжу ад 5,5 да 10 рублёў. Гэта паслуга дае магчымасць абанентам папаўняць рахункі на суму да 10 рублёў авансам.

На працягу трох каляндарных дзён з моманту здзяйснення абяцанага плацяжу яго неабходна пацвердзіць рэальнай аплатай. Абмежаванняў па колькасці выкарыстання "Абяцанага плацяжу" няма, але скарыстацца паслугай можна толькі аплаціўшы папярэдні абяцаны плацеж.

Паводле сайта "Белтэлекам".

## Аграфірму "Ілля" выставілі на таргі. Распрадаюць маёмасць збеглага бізнесмена Аваяр'анава

ВІЛЕЙКА

На таргі выставілі парк забаў "Дрымлэнд" і аграфірму "Ілля", падкантрольныя ЗАТ "Растэм" **Юрыя Аваяр'анава**. Гэта вынікае з інфармацыі, размешчанай на сайце Адзінага дзяржрэестра звестак аб банкруцтве.

Каля двух гадоў таму ў Юрыя Аваяр'анава разгарэлася "вайна" з крэдыторамі за свае актывы. Банкі і падрадчыкі прасілі пагасіць даўгі, якія ўтварыліся з-за рэалізацыі інвестпраекту.

Пазней высветлілася, што прадпрымальнік асеў у Еўропе. Затым стала з'яўляцца інфармацыя, што кампаніі Аваяр'анава адна за другой сыходзяць у банкруцтва.

У канцы 2016 года эканамічны суд Мінска прызнаў "Растэм" неплацежаздольным. У дачыненні да кампаніі ўвялі санацыю і зацвердзілі яе план. Тэрмін санацыі – да 28 чэрвеня 2018 года.

У рамках працэдуры аздараўлення крэдыторы вырашылі выставіць на таргі два актывы. За аграфірму "Ілля" хочуць выручыць мінімум 6,74 мільёна рублёў. Кошт "Дрымлэнда" складае 29,1 мільёна рублёў.

У структуру "Растэма" таксама ўваходзіць рынак будаўнічых матэрыялаў у мікрараёне Уручча ў Мінску. Ці будзе ён у найбліжэйшай будучыні выстаўлены на таргі?

"У плане санацыі гэта прадугледжана. Але не думаю, рынак выставяць у бліжэйшыя два месяцы", – удакладніў антыкрызісны кіраўнік.

Восенню Следчы камітэт прыняў да вытворчасці крымінальную справу ў дачыненні да Юрыя Аваяр'анава, а таксама шэрагу кіраўнікоў камерцыйных структур у сувязі з ухіленнем ад выплаты падаткаў суб'ектамі гаспадарання. Незабаве сілавікі затрымалі шэсць топ-менеджэраў Аваяр'анава. Сам бізнесмен быў абвешчаны ў міжнародны вышук.

18 студзеня Юрыя Аваяр'анава затрымалі ў Берліне.

Паводле tut.by

## У Мінску адкрыюць выставу вілейскага мастака

ВІЛЕЙКА



31 студзеня ў музеі Якуба Коласа ў Мінску адкрыюць выставу **Эдуарда Мацюшонка**. Выставу жывапісу "Адчуванне сябе" адкрыюць у 17:30. Адрас: Мінск, вуліца Акадэмічная, 5.

Па словах мастака, у сакавіку ён плануе адкрыць выставу ў Вілейцы.

## У "Зубраняці" адпачываюць дзеці з Сірыі

МЯДЗЕЛ

У "Зубраняці" праходзіць беларуска-сірыйская змена для адораных дзяцей "Інтэлект. Творчасць. Спорт".

Удзельнікамі змены сталі выдатнікі вучобы, пераможцы і ўдзельнікі міжнародных алімпіяд, прадстаўнікі нацыянальных зборных па робататэхніцы, спартсмены.

З Сірыі ў "Зубраня" прыехалі 144 дзіцяці. На працягу змены яны пазнаёмяцца з культурай Беларусі, з аднагодкамі-беларусамі.

## Зладзілі турыстычную выставу

МЯДЗЕЛ

Выстава "Мядзел турыстычны-2018" адбылася 19 і 20 студзеня. Размясцілася яна ў Мядзельскім гарадскім Доме культуры.

Тут працавалі розныя пляцоўкі, прэзентаваліся аб'екты турыстычнай інфраструктуры.

Аддзел інфармацыі.

# У лясныя фотапасткі трапляюць рысі і парушальнікі

ВІЛЕЙКА

**Фотапасткі дапамагаюць знайсці тых несумленных грамадзян, што выкідаюць у лесе смецце. Спрыяюць супрацоўнікам лягсаса ў прыпыненні незаконнай высечкі лесу і крадзяжоў ужо гатовай драўніны.**




Сяргей Філістовіч лічыць, што менш смецця ў лесе стала не толькі дзякуючы фотапасткам, але і сумленнасці грамадзян.

Дзякуючы гэтым прыстасаванням можна сачыць за ляснымі жывёламі.

Чатыры гады таму ў Вілейскім доследным лягсасе набылі пяць фотапастак. Па словах галоўнага ляснічага **Сяргея Філістовіча**, перш за ўсё, гэтыя прыстасаванні патрэбныя былі, каб змагацца з людзьмі, што робяць звалкі смецця, выкідаюць "адходы сваёй дзейнасці" пасля адпачынку на дарозе ўздоўж лесу.

Яшчэ чатыры-пяць гадоў таму праблема смецця для лясоў Вілейшчыны была вельмі актуальная. Асабліва там, дзе побач месцяцца лецішчы, а таксама на берагах вадасховішча.

### Каб устанавіць парушальніка, звяртаюцца ў ДАІ і да ляснічых

У пазамінулым годзе ў фотапастку трапілі чатыры чалавекі, летась – два. Нягледзячы на тое, што 2018 толькі пачаўся, адзін парушальнік ёсць і ў гэтым годзе. "Засвяціўся" мужчына, які займаўся незаконнай высечкай лесу.

Як пасля ўстанаўліваюць асобы тых, каго "сфатаграфавала" пастка? Па-рознаму. Здараюцца выпадкі, калі ў аб'ектыў трапляе нумар машыны. Тады супрацоўнікі лягсаса звяртаюцца ў ДАІ.

Галоўны ляснічы прыгадаў, што неяк пастка зафіксавала трактар, які з прычэпам смецця ехаў у бок лесу. Праз пэўны час вяртаўся ўжо без смецця. Тады ў фотапастку трапіў твар парушальніка. Праз фотаздымак з пасткі яго і знайшлі.

Фотапастка – прыстасаванне не таннае. Чатыры гады таму каштавала ў межах чатырохпяці мільёнаў недэнамінаваных рублёў. І ўсё ж па словах Сяргея Аляксандравіча, такія пасткі ёсць практычна ва ўсіх лягсасах рэгіёна.

Часам здараецца, што людзі наўмысна шкодзяць іх, а то нават і крадуць. У Вілейскім доследным лягсасе такіх здарэнняў не было.

На думку Сяргея Аляксандравіча, фотапастка – не тое абсталяванне, пра якое можна казаць, акупілася яно ці не. Галоўнае, што лес сёння значна менш цярпіць ад розных парушальнікаў. Ды і выдаткаў на тое, каб арганізаваць брыгаду для збору смецця і накіраваць у лес транспарт, стала значна менш.

### Пастка спрацоўвае на рух

Прыстасаванне ўяўляе сабой невялікую металічную каробачку з флэшкай. Яе ставяць у тых месцах, дзе найчасцей выкідаюць смецце, незаконна высякаюць лес або ляжаць прыгатаваныя для пагрузкі штабялі дроў.

Прыстасаванне не здымае лес пастаянна. Яно спрацоўвае на рух. Захоча хто-небудзь нашкодзіць у лесе – а фотапастка ў гэты час яго сфатаграфуе. Да таго ж працуе яна ў такім рэжыме, што фотаздымак парушальніка адразу прыходзіць у лягсас, на камп'ютар інжынеру па ахове лесу. "Па гарачых слядах" спецыялісты выязджаюць на месца.

Па заканадаўстве, калі ў лесе ёсць фотапастка, на ўездзе каля дарогі размяшчаюць плакат, які паведамляе пра відэаназіранне.

Ці трапляюць у фотапасткі несумленныя грамадзяне, што прыязджаюць пад Новы год за бясплатнай ялінкай? А ягаднікі, якія летам збіраюць чарніцы недазволенымі камбайнамі? Па словах галоўнага ляснічага, вока фотапасткі зафіксуе і іх.

### А вы ведалі, што па вілейскіх лясах блукаюць рысі?

Яшчэ адна функцыя фотапастак – назіранне за жывёламі. Работнікі лягсаса часта ўстанаўліваюць камеры ля падкормачных пляцовак. Дзякуючы такому назіранню, прыблізна ведаюць, колькі якіх жывёл у лесе, іх узрост.

Асаблівая тэма – назіранне за рэдкімі жывёламі і птушкамі.

**Пасля вельмі доўгага перапынку ў лясах Вілейшчыны з'явіліся рысі.**

Спачатку работнікі лягсаса заўважылі сляды. А потым, дзякуючы фотапасткам, пабачылі рэдкага звера. Па словах Сяргея Аляксандравіча, на сённяшні дзень на Вілейшчыне дакладна ёсць тры рысі.

Распавёў галоўны ляснічы і пра рэдкую птушку, што гняздуецца на Вілейшчыне, – беркута, або арлана белахвостага.

Звычайна гэтыя птушкі жывуць у глухіх месцах, таму гнязда іх пакуль не знайшлі.

А вось саміх арланаў бачылі. У месцы, дзе яны могуць з'явіцца, паклалі прынаду – тушу жывёлы. На яе сфакусіравалі фотапастку. І праз нейкі час у аб'ектыў сапраўды патрапілі арланы белахвостыя. Пакуль можна сцвярджаць, што на Вілейшчыне ёсць пара гэтых птушак.

Канешне, усе праблемы фотапасткі не вырашылі. Аднак дакладна можна казаць: смецця, незаконных высечак стала менш.

І прычын тут некалькі. Працуе, як сказаў галоўны ляснічы, "сарафаннае радыё". Нехта заплаціць штраф за свае незаконныя дзеянні, раскажа знаёмым – і тыя не захочуць шкодзіць. Такім чынам пасткі дысцыплінуюць.

А яшчэ, па назіраннях Сяргея Аляксандравіча, людзі сталі больш сумленныя. Пачалі задумвацца пра экалогію, пра паасобны збор смецця. На Вілейшчыне шмат робяць у гэтым накірунку.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# Кніга, ад якой пахне бабулінымі піражкамі

## У беларускамоўнай групе смаргонскага садка №8 завяршылі кулінарны праект


Фота забяспечанае Эдзітай БРАНЦЭВІЧ.

Ганна Коўшык з бабуляй гатуюць разам.

СМАРГОНЬ

**Днямі выхаванцы беларускамоўнай групы №12, што ў смаргонскім восьмым садку, са сваёй выхавальніцай Эдзітай Бранцэвіч завяршылі кулінарны праект “Па бабуліных рэцэптах”.**

У гэтым навучальным годзе ў садку вырашылі звярнуць асаблівую ўвагу на якасць і культуру харчавання дашкольнікаў.

### Вышываныя абрусы і рэклама страў

– Сучаснае жыццё вельмі хуткаплыннае, – лічыць выхавальніца і куратар праекта Эдзіта Бранцэвіч. – Часта мы не маем часу не толькі на прыгатаванне вартаснага сняданку ці абеду, а нават і на тое, каб добра харчавацца. Працуючы ў садку, заўважыла, што рэдка ў якой сям’і захаваліся традыцыі сямейных абедаў, сумеснага прыгатавання ежы, сервіроўкі стала і няспешных размоў за абедамі.

На думку педагога, ад гэтага парушаецца, а то і зусім страчваецца культура харчавання.

Да кулінарнага праекта з разуменнем аднесліся бацькі. У групе з’явіліся прыгожыя вышываныя абрусы, сурвэткі, вязаныя кручком, гліняныя збаны і гаршкі, драўляныя лыжкі і ступкі, сучасны лялечны посуд.

Каб павысіць у выхаванцаў апетыт, педагогі пачалі рэкламаваць кожную страву. Дзеці самастойна сервіравалі сталы як для лялек, так і для сябе. Такім чынам, яны ў гульні і справах яшчэ раз паўтарылі, як называюцца прадметы посуду па-беларуску.

### Як кулінарыя паспрыяла цёплым сямейным адносінам

А яшчэ дзеці і іх бацькі зрабілі рукатворную кнігу “Бабуліны рэцэпты”. Кожны з дзяцей размясціў на старонках рэцэпт той стравы, якую бабуля гатуе смачней за ўсё. Каля кожнага рэцэпта – фотаздымак унучкі ці ўнука з любімай бабуляй.

– Атрымалася, што праект паспрыяў і больш блізкім, цёплым адносінам паміж унукамі і бабулямі, – распавядае Эдзіта Бранцэвіч. – Сямейныя альбомы папоўніліся новымі фотаздымкамі.

Вокладку кнігі зрабілі з тканіны і аздобілі аплікацыяй бацькі выхаванцаў.

– Каб вы ведалі, што за энергетыка ў гэтай кнізе! – не хавае эмоцый выхавальніца. – Здаецца, што ад яе так і ідзе пах бабулінай кухні. А з кожнай старонкі на вас глядзяць шчаслівыя вочы бабулі і ўнукаў.


Фота забяспечанае Эдзітай БРАНЦЭВІЧ.

Формачкі ад лялечнага посуду спатрэбіліся для печыва.

Не толькі стварэнне кнігі было прадугледжанае праектам. Пад кіраўніцтвам выхавальніцы дзеці самастойна гатавалі стравы з кнігі. І выбралі яны печыва, бо вельмі цікавыя формачкі былі ў лялечным посудзе. Апрануўшы фартушкі, дзеці замешвалі і раскачвалі цеста, выразалі з яго фігуркі. А адказную працу з міксерам узяла на сябе Эдзіта Эдуардаўна.

Па словах выхавальніцы, пах прысмакаў, прыгатаваных дзецьмі, удыхаў увесь садок. А некаторым і пакаштаваць удалося.

Эдзіта Бранцэвіч упэўненая, створаная кніга – не толькі збор сямейных кулінарных рэцэптаў. Гэта спадчына кожнай сям’і і групы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дзённік мамы першакласніцы: а мы ўжо амаль навучыліся плаваць... у нарукаўніках


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ад школьных урокаў у выхадныя Варвара адпачывала на горцы.

МАЛАДЗЕЧНА

**Ведаеце, што? А басейна мы баяліся дарма.**

Менавіта з гэтай фразы хочацца пачаць сённяшні дзённік мамы. Бо столькі сумесных хваляванняў было, а дзіцяці спадабалася. Цяпер хвалюецца ўжо з іншай нагоды: кажа, чаму басейн толькі раз на тыдзень.

Бо там і практыкаванні цікавыя, і трэнер разам з імі ў вадзе, і “карагоды” са знаёмым яшчэ мне з дзяцінства “Баба сеяла гарох”. Мы ўжо амаль навучыліся хутка надзяваць шапачку. Галоўнае, правільна размеркаваць абавязкі: Варвара трымае, я нацягваю.

Быць у басейне бацькам не дазваляюць. Але гэтага і не трэба. Там жа і трэнер, і настаўніца. А дадатковую бяспеку дають надзіманыя нарукаўнікі, што надзейна трымаюць на вадзе.

Ужо навучыліся пісаць шмат літар. Займаемся такой адказнай і складанай формай працы, як спісванне. У сшытак пішам па тры радкі з тэксту для чытання, што задаюць у “Буквары”. Тое, што трэба па праграме, чытаем хутка. Там пакуль усё ў стылі “Мама мыла раму”. А Варвара ўжо ў сваё задавальненне перад сном кніжкі чытае.

У дзённіку сярод нашых суцэльных жоўтых квадратаў з’явіўся адзін чырвоны. Гэта запамінальная падзея адзначылася слязьмі, хоць на дзіця я не сварылася.

Нагадаю, што жоўтыя ставяць за ўзорныя паводзіны, а чырвоныя – за менш узорныя. Такое пакаранне Варвара атрымала за тое, што ў сталовай размаўляла з сяброўкай. Хоць і шэптам, але дысцыпліна ёсць дысцыпліна.

Нягледзячы на жаданне адаспацца ў выхадныя, час ад часу ходзім у школу па суботах, ці ў шосты школьны дзень, як тут кажуць. Апошні раз была цікавая віктарына “Цуды на Стары новы год”.

Варвара палюбіла ціхі час. А любоў гэта ад добрай выхавальніцы, якая перад сном чытае дзецям кніжкі. Цяпер перад тым, як заснуць, першакласнікі слухаюць пра нейкага Зялёнага чалавечка, што ненадзейліва распавядае ім пра Сусветную Дэкларацыю правоў чалавека.

Па беларускай мове па-ранейшаму атрымліваем дзясяткі-смайлікі. Апошнім часам праходзілі словы “абрус”, “падарунак”, “свята”, “посуд”.

Хатнімі заданнямі мы асабліва не заваленыя, бо ў першым класе іх не задаюць. Аднак калі хочаш, каб вынік быў лепшы, то варта і чытаць, і пісаць у выхадныя, і табліцы складання лікаў па матэматыцы паўтарыць.

Але апошнія выхадныя ў нас, сорамна прызнацца, прайшлі без дамашняга задання. Затое з горкі пакаталіся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

НАВІНЫ

## Вілейскі каледж паўдзельнічаў у дні прафарыентацыі ў Мядзеле

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

20 студзеня прадстаўнікі Вілейскага дзяржаўнага каледжа ўдзельнічалі ў дні прафарыентацыі для будучых выпускнікоў школ Мядзельшчыны.

Віляйчане паказалі мядзельскім старшакласнікам дэфіле тэатра моды. Навучэнцы, якія атрымліваюць прафесію швачкі, самі зрабілі касцюмы для выступлення пад кіраўніцтвам сваіх майстроў вытворчага навучання. А будучыя цырульнікі зрабілі прычоскі мадэлям.

Аддзел інфармацыі.


Фота vk.com.

## Чаму адбываюцца трагічныя здарэнні на маламерных суднах

Неахайныя адносіны людзей да выканання правілаў бяспекі на маламерных суднах – маторнай лодцы, катары, гідрацыкле – часам вядуць да цяжкіх наступстваў.

Летась у Беларусі адбылося 17 аварыйных здарэнняў з удзелам маламерных суднаў. У аварыях загінулі дзевяць чалавек, сем змаглі выратавацца.

У 2016 годзе такіх выпадкаў было 22. Загінулі 17 чалавек, выратаваліся – 25.

Асноўнай прычынай смяротных выпадкаў з'яўляецца адсутнасць выратавальных камізэлек на судне.

Усе прычыны здарэнняў з маламернымі суднамі вядомыя і звычайна паўтараюцца кожны год. Акрамя адсутнасці камізэлек, гэта выхад на ваду ў неспрыяльнае надвор'е, кіраванне суднам у нецвярозым стане.

Найбольш маламерных суднаў зарэгістравана ў Мядзельскім раёне. Тут іх – 2279. Наступная па колькасці Маладзечаншчына – 1880. У Вілейскім раёне такіх суднаў зарэгістравалі 573, у Смаргонскім – 459. 283 – на Ашмяншчыне, 227 – на Астравеччыне. Лічбай 71 замыкае спіс Валожынскі раён.

Нагадаем, што ў нашым рэгіёне знаходзяцца самыя вялікія вадаёмы Беларусі. Гэта возера Нарач, плошча якога 7 692 гектары, і Вілейскае вадасховішча – 6 460 гектараў.

Андрэй МОНІТ, дзяржаўны інспектар па маламерных суднах Маладзечанскага ўчастка ДІМС.

## Канцэрт каляднай песні правялі ў Івянцы

ВАЛОЖЫН

20 студзеня зладзілі фестываль каляднай песні ў Івянецкім Доме культуры.

Мерапрыемства праводзілі ў восьмы раз. Калядныя спевы гучалі ў выкананні калектываў Ubi Caritas, мясцовага хору, вакальнага ансамбля школы мастацтваў Івянца, сямейнага гурта "Крона" з Ракава, сям'і **Пратасевічаў** з Пяршаі.

Гучаў таксама калядны джаз у выкананні **Вікторыі** і **Валяр'яна Янушкевічаў** з Ракава. Лірнікі **Алесь Лось** і **Васіль Грынь** прапанавалі гледачам традыцыйную лірніцкую музыку.

Аддзел інфармацыі.

## Школьніцы Астравецкага раёна сталі стыпендыятамі Фонду міру

АСТРАВЕЦ

Вучаніцы з Астравеччыны **Яна Кавалеўская** і **Арына Лаўрэцкая** ўдзельнічалі ў цырымоніі ўручэння стыпендыі абласнога аддзялення Беларускага фонду міру. Яна вучыцца ў гімназіі №1 Астраўца, а Арына – у Гудагайскай сярэдняй школе.

Стыпендыятак запрасілі ў Гродна. Актывістау, выдатнікаў і спартсменаў павіншаваў старшыня праўлення Фонду міру **Максім Місько**. Усяго 55 школьнікаў з Беларусі сталі стыпендыятамі фонду. За ўсе гады існавання стыпендыі ёй адзначылі 50 прадстаўнікоў Астравеччыны, распавялі ў райвыканкаме Астраўца.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота gazeta.ru.

# Як змагаліся з дармаедамі ў 1960-х

## Па матэрыялах мядзельскай раённай газеты

МЯДЗЕЛ

**"15 мая 1961 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдаў Указ "Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць антыграмадскі паразітычны лад жыцця".**

Гэты ўказ прыняты ў сувязі з тым, што ў гарадах і вёсках ёсць яшчэ людзі, якія ўпарта не хочуць працаваць. Яны для бачнасці ўладкоўваюцца на работу, а фактычна жывуць на непрацоўныя даходы.

**З мэтай нажывы займаюцца самагонаварэннем, спекуляцыяй, здаюць у часовае карыстанне свае дачы, выдаюць напракат уласныя машыны, вырошчваюць сельгаспрадукты і выгадна прадаюць іх на кірмашах.**

Адным словам, робяць так, каб як мага менш затраціць працы, а атрымаць як найбольшы прыбытак.

Згодна з указам, такія людзі па рашэнні народнага суда высяляюцца ў спецыяльна адведзеныя месцы тэрмінам ад двух да пяці год. Набытая непрацоўным шляхам маёмасць канфіскуецца.

Сустракаюцца яшчэ і сярод хлебаробаў Мядзельшчыны асобы, якія вядуць паразітычны лад жыцця. Да выхаду ўказа іх было 81 чалавек. Усіх іх выклікалі ў сельскія Саветы, следчыя органы і строга папярэджвалі. Большасць зразумела, што літасці ім не будзе, і стала на правільны жыццёвы шлях. Аднак не ўсе.

Доўгі час туляўся без справы жыхар вёскі Мікольцы **Ігнат Субач**. Яго неаднаразова папярэджвалі, але той працягваў жыць на непрацоўныя даходы. Прыйшлося прымяніць указ. Цяпер Субач выселены з раёна на пяць год.

Не займаўся грамадска-карыснай працай і **Браніслаў Станчык**. У 1944 годзе яго асудзілі за ўхіленне ад мабілізацыі ў рады Савецкай Арміі. Адбыў пакаранне, прыехаў у вёску Яцыны, уступіў у калгас "Рассвет". Але ўдзелу ў грамадска-карыснай працы ніякага не прымаў, збіваў актывістаў сельгасарцелі, за што ў 1958 годзе быў зноў асуджаны.

Вярнуўся дадому. Як і раней, стаў займацца пабочнымі справамі, хаця лічыўся рабочым калгаса "Свір". За 1960 год ён зрабіў толькі 32 выхады на працу, за 1961 – сорак, у гэтым годзе не выходзіў зусім. Яго асноўнымі заняткамі былі самагонаварэнне, спекуляцыя мёдам, яблыкамі, якія ён вазіў прадаваць у розныя гарады. Прыйшлося да дармаеда прымяніць самыя строгія меры – выселіць з раёна на тры гады.

Субач і Станчык выселены ў аддаленыя месцы, дзе яны вымушаны будуць працаваць. Няхай улічаць гэта **Марыя Бекіш** з саўгаса "Свір", **Аляксандр Петух** з калгаса "Барацьбіт" і астатнія, падобныя ім тыпы.

Працоўныя Мядзельшчыны, як і ўвесь савецкі народ, натхнёныя рашэннямі XXII з'езда КПСС, у імя пабудовы камунізму прыкладаюць усе сілы, каб даць краіне як мага больш малака, мяса, збожжа. Яны не пацерпяць, каб на іх працы нажываліся, багацелі і жылі прыпяваючы дармаеды. Ніякай ім літасці!"

Так пісаў у мядзельскай "раёнцы" "Савецкая вёска" (№6 ад 20 студзеня 1962 года) пракурор раёна **І. Гушчын**.

Крыху раней, 6 студзеня 1962 года, у газеце выходзяць матэрыялы пад агульным загалоўкам "Дармаедам, гультаям, п'яніцам – не месца ў нашым грамадстве!".

### Гандлярка

На прасёлачнай, занесенай снегам, дарозе крочыць рослая дзяўчына. Яна раз-пораз спыняецца, кладзе на зямлю важкія клункі. Гэта **Марыя Якушонак**, жыхарка вёскі Волачак. Яна накіроўваецца ў горад на кірмаш.

Што гэта, можа, выпадкова? Ды не. Марыі споўнілася 25 год, але яна не мае адпаведнага занятку. Вось ужо каля пяці год пасля заканчэння школы матляецца па кірмашах Мядзела, Маладзечна, Мінска. У працоўнай жа кніжцы – каб працадзень!

Наша краіна ўпэўненым крокам ідзе да камунізму. І ў цяперашні час цяжка ўявіць сабе чалавека без працы, без адпаведнага занятку. На жаль, такія людзі ў нашай савецкай сям'і яшчэ ёсць. Падобным, як Марыя Якушонак, не месца ў нашым калгасе.

(З пісьма калгаснікаў 12-й паляводчай брыгады калгаса "Ленінскі шлях")

* * *

**Іосіф Петух** здаровы, працаздольны чалавек, але члены трэцяй паляводчай брыгады калгаса "Барацьбіт" на працы яго бачаць ад выпадку да выпадку. Цэлымі днямі лодыр адседжваецца дома або туляецца без справы па вёсцы Сідаравічы. Іосіфа Петуха неаднаразова папярэджвалі на праўленні калгаса, сельвыканкоме, аднак яму хоць бы што. Карыстаецца ўсімі правамі калгасніка, а ўдзелу ў грамадска-карыснай рабоце ніякага не прымае, прадаўжае весці паразітычны лад жыцця.

(З сігналу ў рэдакцыю).

Падрыхтаваў Вадзім ПРАЎРАЦКІ.

# Чаго мы не ведаем з гісторыі Вілейшчыны?

**У 2014 годзе пачаў выходзіць гісторыка-краязнаўчы гадавік “Вілейскі павет”. У зборніку публікуюцца тэксты з гісторыі Вілейскага раёна. Ужо пабачылі свет тры кнігі. Ці будзе працяг? Расказвае ўкладальнік гадавіка Сяргей Макарэвіч.**



На фота Антона Сальвука – помнік польскім жаўнерам у Вілейцы, 1930-я. Са збораў Валерыя Калясінскага.

– Працяг мы рыхтуем. Але ён выйдзе не раней за лета-восень 2018.

Наша задача простая – каб чарговы нумар не стаў апошнім. Ужо сфарміравалася кола сталых чытачоў. Але хочацца пашыраць гэта кола. І найперш за кошт чытачоў з Вілейшчыны, для якіх мы і робім гэты гадавік. Спадзяюся, праз “Рэгіянальную газету” мы знойдзем новых прыхільнікаў.

**Якія публікацыі “Вілейскага павета” знайшлі найбольшы водгук?**

– Тры выпускі – 60 тэкстаў і паўсотні аўтараў. Гэта як артыкулы на 2-3 старонкі, так і пераклады цэлых кніг, звязаных з нашым краем. Гадавік з перакладам акурат кнігі польскага прафесара **Францішка Сяліцкага** “Даўгінаўска-будслаўска-крывіцкі рэгіён на даўняй Віленшчыне” выклікаў найбольшую ўвагу. Аўтар нарадзіўся ў 1923 годзе ў в. Мікуліна, каля Даўгінава. Яго сям’ю саветы выслалі ў Алтайскі край, адкуль Францішак адправіўся ваяваць з нацыстамі. Пасля вайны застаўся ў Польшчы. Стаў славістам. Шэраг кніг напісаў на матэрыяле з Вілейшчыны. І вяскоўцам з ваколіц Даўгінава цікава чытаць пра сваіх дзядоў.

Пра рыбалку на Вяллі сёння і 150 гадоў таму напісаў **Міхаіл Міхалевіч**. Ён сабраў шмат гісторый ад вяскоўцаў, якія жывуць уздоўж ракі. А тыя расказалі не толькі як лавіць рыбу, а таксама як смачней яе згатаваць. Шмат было водгукаў на гэты тэкст.

**Вы стараецеся публікаваць арыгінальныя матэрыялы. Якія найцікавейшыя знаходкі здарыліся?**

– У трэцім нумары апублікаваныя два тэксты пра вілейскіх даваенных фатографаў – **Антона Сальвука** і **Берку Бермана**. А таксама з два дзясяткі іх фотакартак з відамі горада і партрэтамі жыхароў. Калі некаторыя здымкі Бермана чытачы маглі бачыць у іншых кнігах, то фотаархіў Сальвука – знаходка ўнікальная.

Ураджэнец вілейскай Іллі **Ілірык Вараўка** напісаў грунтоўны тэкст пра роднае мястэчка, у якім даводзіць, што назва Ілля – паходзіць не ад мужчынскага імя. А спрадвечная яго назва – Іля. Так, дарэчы, мястэчка яшчэ называе старэйшае пакаленне. Ілірык дзесяцігоддзямі збірае звесткі пра сваё мястэчка (жыве ён у Польшчы). І ў сваім грунтоўным тэксце ўсё даходліва тлумачыць. Упэўнены, што лепш за яго ніхто не ведае гісторыю Іллі.

Вялікую ўвагу мы надаём гісторыі нашых вёсак і мястэчак. Напрыклад, надрукавалі пераклад кнігі ўраджэнца **Кастык Тадэвуша Козела-Паклеўскага**, шмат матэрыялаў пра Даўгінава, Куранец, Вязынь. Пра род **Гецэвічаў**, пра даўгінаўца **Вульфа Сосенскага**, пра паўстанцаў 1863 года, пра **Нікадзіма Сіліvановіча...**

**Што будзе ў наступным выпуску?**

– Будзе апублікаваны мой тэкст пра Вілейку 1939-1941 гадоў. Гэта спроба прасачыць за зменамі, што адбываліся ў горадзе з прыходам саветаў. За людзьмі, якіх сюды прысылалі. Адным з герояў той публікацыі – паэт Максім Танк, які цэлы год працаваў у вілейскай абласной газеце. У Вілейцы, між іншым, ён і ажаніўся.

Апублікуем новыя тэксты **Анатоля Капцюга**, **Анатоля Сцебуракі**, **Вольгі Коласавай**. А калі ў вас, шаноўныя чытачы, ёсць матэрыялы, з якімі хочаце падзяліцца, пішыце на **viliejskipaviet@gmail.com**.

Гутарыў Дзмітры БЕРАЖНЫ.

Набыць гісторыка-краязнаўчы альманах “Вілейскі павет” можна ў Выставачнай зале краязнаўчага музея і ў выдавецтве “Янушкевіч” (januskevic.by) альбо па нумары (029) 1207600. З дастаўкай па Беларусі.

## Шпіталі былі ў Залессі і Высакаўшчызне, на магіле ў Прудах стаяў прапелер

### Чытачы дзеляцца ўспамінамі родных пра пахаванне на станцыі Пруды

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ, ВІЛЕЙКА

У №№ 2 і 3 “Рэгіянальнай газеты” ў рубрыцы “Куфэрак” мы друкавалі матэрыял “Хто пад Смаргонню не бываў, той вайны не ведаў”.

Аўтар, маладзечанец **Віктар Голуб**, распавядаў пра падзеі Першай сусветнай вайны ў раёне Смаргоншчыны і Маладзечаншчыны. Віктар звяртаўся да нашых чытачоў з просьбай: магчыма, у каго-небудзь ёсць дакументы і фотаздымкі, якія б маглі пацвердзіць, што не ўлічанае сёння пахаванне на станцыі Пруды з’яўляецца вайсковым.

Калі магілкі прызнаюць вайсковымі, то за імі будзе адпаведны догляд і добраўпарадкаванне.

Дакументаў і фотаздымкаў пакуль ніхто з чытачоў не праслаў. Але адгукнуліся жыхары Вілейшчыны і Маладзечаншчыны. Яны падзяліліся з намі ўспамінамі бацькоў і дзядоў пра падзеі Першай сусветнай і пра апісанае пахаванне.

### Віляйчанін Міхаіл Мамай: лячылі ў Высакаўшчызне, хавалі ў Прудах

**Міхаіл Мамай** жыве ў Вілейцы, а нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Швяды на Вілейшчыне. Вось што ён распавёў карэспандэнту:

– Ад Швядоў да станцыі Пруды напрамкі сем кіламетраў. У сярэдзіне 1950-х мы часта хадзілі тудэ пешшу. Гэта была адзіная магчымасць сесці на цягнік і заехаць у Маладзечна. Заўсёды ішлі міма пахавання, пра якое пісаў Віктар Голуб.

Мой бацька быў з 1912 года. Ён распавядаў, што ў Высакаўшчызне, у гасподскім доме, быў шпіталь. Да нядаўняга часу ад таго дома-шпіталя яшчэ захоўваўся падмурак. Могілак у Высакаўшчызне не было. Бліжэйшыя месціліся якраз там, дзе піша Віктар, на станцыі Пруды.

Памерлых салдат хавалі там. Закопвалі ў ніжняй бялізне, часта ў адной магіле было некалькі памерлых. Па словах бацькі, выкопвалі яму, на ніз клалі шынялі, на іх памерлых. Пасля зноў – шынялі, і зноў – нябожчыкаў. Часта хавалі “ў тры накаты”.

Яшчэ бацька казаў Міхаілу, што на могілках быў пахаваны лётчык. За польскім часам на яго магіле стаяў прапелер. Пасля недзе знік.

### Жанна Ігнатовіч з Турэц-Баяраў: бабуля казала, што ў Прудах пахаваная лётчыца

Бабуля Жанны Ігнатовіч **Надзея Шымель** нарадзілася ў 1903 годзе ў Запаляках. Падчас Першай сусветнай вайны была ўжо падлеткам, таму добра ўсё памятала, а ў сталым узросце распавядала ўнучцы.

На словах бабулі, шпіталь месціўся ў Залессі, у былой сядзібе **Міхала Клеафаса Агінскага**. Туды па чыгунцы везлі параненых салдат. Памерлых ад ран, забітых, атручаных газам везлі хаваць у Пруды. Могілак тут было двое.

Хавалі ў брацкіх магілах, шмат чалавек у адной. Калі быў нейкі афіцэр, яго хавалі ў магіле аднаго. Доўга на магіле аднаго з пахаваных вайскоўцаў стаяў крыж, зроблены з чыгунных рэек. Жанна памятае, як у 1980-я гады прыязджалі людзі на чорнай “Волзе” і нешта капалі на той магіле.

– Пра тое, што падчас вайны тут разбіўся самалёт, бабуля казала мне. Я нават ведаю прыблізна месца, дзе ён зваліўся, – працягвае Жанна. – У балота, побач з хутарам. Ад хутара засталіся толькі дрэвы, і балота няма, бо была меліярацыя. А яшчэ ў самалёце быў не лётчык, а лётчыца. Нядаўна прыязджалі людзі, пыталіся, дзе ў вас тут падчас вайны жанчына на самалёце загінула.

Жанна таксама пацвердзіла, што на магіле лётчыцы стаяў прапелер. Пасля яго дзеці сцягнулі.

Бацька Жанны з 1944 года. Калі ён вучыўся ў мясцовай школе, настаўніца **Вера Дзямідовіч** праводзіла вучняў на станцыю, каб тыя добраўпарадкавалі магілкі.

У 1980-я гады магілкі закідвалі смеццем. Бабуля Жанны вельмі перажывала. Маўляў, як так можна, там жа людзі пахаваныя.

Аксана ЯРАШОНАК.

КАЛЯНДАР

26 СТУДЗЕНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння **Івана Новікава** (1918 – 2001), беларускага пісьменніка, журналіста, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**1990.** Прыняты Закон “Аб мовах у Беларускай ССР”. Вярхоўны Савет БССР абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

**1907.** Нарадзіўся **Мікалай Лапіцкі** (в. Грэлікі, цяпер Вілейскі раён), праваслаўны святар, рэлігійна-грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

28 СТУДЗЕНЯ

**430 гадоў** назад (1588) зацверджаны Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага, збор законаў феадальнага права, унікальны помнік беларускай мовы, пісьменнасці і юрыдычнай думкі.



**75 гадоў** з дня нараджэння **Міхаіла Пташука** (1943 – 2002), беларускага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола (1980), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982).

**1940.** Нарадзіўся **Леанід Дайнека**, беларускі пісьменнік. Вядомы як адзін з лепшых беларускіх гістарычных пісьменнікаў. Аўтар раманаў “Меч князя Вячкі” (1987) пра барацьбу Полацка з немцамі ў Ніжнім Падзвінні ў 13 стагоддзі, “След ваўкалака” (1988) пра полацкага князя **Усяслава Брачыславіча**, “Жалезныя жалуды” (1990) пра ранні этап станаўлення Вялікага Княства Літоўскага. У 2008 годзе выйшаў раман “Назаві сына Канстанцінам”, дзеянне ў якім адбываецца ў XV-XVI ст. у Рыме, ВКЛ і Канстанцінопалі.

29 СТУДЗЕНЯ

1884. Нарадзіўся **Антон Луцкевіч** (1884 – 1942), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык.

30 СТУДЗЕНЯ

**185 гадоў** з дня нараджэння **Апалінара Гараўскага** (1833 – 1900), беларускага пейзажыста і партрэтыста.

**1922.** У Мінску заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт).

31 СТУДЗЕНЯ

**1930.** Памёр **Бенядыкт Дыбоўскі**, заолаг, прыродазнаўца, лекар, публіцыст, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Нарадзіўся ў 1833 годзе ў фальварку Адамарын Вілейскага павета (цяпер Маладзечанскі раён). Пахаваны у Львове.

Марыя БЕРАСНЕВА.

# Месяцавы пасяўны каляндар садавода і агародніка на 2018 год па культурах

**Месяцавы каляндар згрупаваны па работах у садзе і агародзе, згодна з канкрэтнымі агракультурамі. Улічаныя квадры Месяца, праходжанне Месяцам знакаў задыяка.**

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**



| ЛЮТЫ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 14, 15, 16, 19, 20, 27, 28 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 23, 24 25, 26 |
| Капуста ўсіх відаў | 4, 5, 17, 18, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 2, 3, 17, 18, 21, 22, 25, 26 |
| Памідоры, баклажаны | 17, 18, 21, 22, 25, 26 |
| Перац салодкі | 17, 18, 21, 22, 25, 26 |
| Перац горкі | 17, 18, 21, 22, 23, 24 |
| Цыбуля на пяро | 17, 18, 21, 22, 25, 26 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 17, 18, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13 |
| Цыбуля на галоўкі | 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, |
| Часнок | 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13 |
| Радыска | 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 4, 5, 9, 10, 17, 18 |
| Расліны, што ўюцца | 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 23, 24 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 4, 5, 17, 18, 25, 26 |
| Кветкі з насення | 2, 3, 17, 18, 21, 22, 25, 26 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 2, 3, 4, 5 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 21, 22, 25, 26 |

| САКАВІК | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 13, 14, 15, 17, 18, 19, 27, 28, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Бахчавыя | 25, 26 |
| Капуста ўсіх відаў | 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 1, 20, 21, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Памідоры, баклажаны | 20, 21, 24, 25, 26 |
| Перац салодкі | 20, 21, 24, 25, 26 |
| Перац горкі | 1, 20, 21, 22, 23, 29, 30 |
| Цыбуля на пяро | 20, 21, 24, 25, 26 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 1, 20, 21, 24, 25, 26 |
| Бульба, тапінамбур | 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16 |
| Цыбуля на галоўкі | 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16 |
| Часнок | 6, 7, 11, 12, 16 |
| Радыска | 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 3, 4, 5, 8, 9, 10, 16 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 22, 23, 29, 30 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 6, 7, 16, 25, 26 |
| Кветкі з насення | 1, 3, 4, 5, 20, 21, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 3, 4, 5, 29, 30 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 11, 12, 16, 20, 21, 25, 26 |

| КРАСАВІК | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 9, 10, 11, 14, 15, 16, 23, 24, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Бахчавыя | 17, 18, 21, 22, 29 |
| Капуста ўсіх відаў | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 17, 18, 21, 22, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Памідоры, баклажаны | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Перац салодкі | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Перац горкі | 17, 18, 19, 20, 25, 26, 27, |
| Цыбуля на пяро | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 17, 18, 21, 22, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Бульба, тапінамбур | 1, 2, 3, 7, 8, 12, 13 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 2, 3, 7, 8, 12, 13 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 3, 7, 8 |
| Часнок | 2, 3, 7, 8 |
| Радыска | 2, 3, 7, 8, 12, 13 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 1, 2, 3, 7, 8, 12, 13 |
| Сланечнік | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Кукуруза | 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 1, 4, 5, 6, 12, 13 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 19, 20, 27, 28, 29 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 12, 13, 21, 22 |
| Кветкі з насення | 17, 18, 21, 22, 25, 26, 29 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 1, 25, 26, 27, 28 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 7, 8, 12, 13, 17, 18, 21, 22, 27, 28, 29 |

| Май | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 7, 8, 12, 13, 15, 20, 21, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 16, 17, 18, 19, 24, 25, 26, 27 |
| Бахчавыя | 18, 19, 27, 28 |
| Капуста ўсіх відаў | 16, 17, 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 18, 19, 22, 23 |
| Памідоры, баклажаны | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Перац салодкі | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Перац горкі | 16, 17, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Цыбуля на пяро | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Бульба, тапінамбур | I, 2, 3, 4, 5, 6, 9, 10, 14 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 4, 5, 6, 9, 10, 11, 14 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 14 |
| Часнок | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 9, 10, 11, 27, 28 |
| Радыска | I, 2, 3, 4, 5, 6, 9, 10, 14 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | I, 2, 3, 4, 5, 6, 9, 10, 14 |
| Сланечнік | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Кукуруза | 18, 19, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 2, 3, 9, 10, 11, 24, 25, 26, 30 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 30, 31 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 2, 3, 14, 18, 19, 24, 25, 26 |
| Кветкі з насення | 9, 10, 11, 18, 19, 22, 23, 27, 28 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 22, 23, 24, 25, 26 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 9, 10, 11, 18, 19, 24, 25, 26 |

| Чэрвень | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 3, 4, 5, 8, 9, 13, 16, 17, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 14, 15, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Бахчавыя | 14, 15, 23, 24 |
| Капуста ўсіх відаў | 14, 15, 21, 22, 23, 24 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 14, 15, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24 |
| Памідоры, баклажаны | 14, 15, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Перац салодкі | 14, 15, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Перац горкі | 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24 |
| Цыбуля на пяро | 14, 15, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш.зяленіўныя | 14, 15, 21, 22, 23, 24 |
| Бульба, тапінамбур | 1, 2, 6, 7, 10, 11 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | I, 2, 6, 7, 10, ii, 29 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 10, 11, 29 |
| Часнок | 1, 2, 29 |
| Радыска | I, 2, 6, 7, 10, 12 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | I, 2, 6, 7, 10, 29 |
| Расліны, што ўюцца | 12, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 6, 7, 10, 11, 21, 22 |
| Кветкі з насення | 6, 7, 14, 15, 18, 19, 20, 23, 24 |

| Ліпень | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 5, 6, 7, 13, 14, 15, 27, 28, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 16, 17, 18, 19, 21, 22 |
| Цыбуля на пяро | 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 18, 19, 20, 21, 22, 25, 26 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 3, 4, 8, 9, 10, 11, 30, 31 |
| Цыбуля на галоўкі | 8, 9, 30, 31 |
| Часнок | |
| Радыска | 3, 4, 8, 9, 10, 11, 30, 31 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 3, 4, 8, 9, 30, 31 |
| Расліны, што ўюцца | 10, 11, 16, 17, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 8, 9, 18, 19 |
| Кветкі з насення | 3, 4, 16, 17, 20, 21, 22 |

| Жнівень | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 3, 10, 11, 24, 25, 26, 29, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 14, 15, 16, 17, 18, 21, 22, 23 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 27, 28, 31 |
| Цыбуля на галоўкі | 4, 5, 8, 9 |
| Радыска | 1, 4, 5, 6, 7 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 4, 5, 8, 9 |
| Расліны, што ўюцца | 6, 7, 12, 13, 16, 17, 18, 19, 20 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 4, 5, 14, 15, 31 |
| Кветкі з насення | 1, 8, 9, 12, 13, 16, 17, 18 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 12, 13, 14, 15 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 8, 9, 16, 17, 18, 21, 22, |

| Верасень | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 7, 8, 9, 20, 21, 22, 25, 26 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 11, 12, 13, 14, 18, 19, 23, 24 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 27, 28, 29 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 11, 12, 15, 16, 17, 23, 24 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 11, 12, 27, 28, 29 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 10, 11, 12 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 23, 24 |

| Кастрычнік | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 4, 5, 8, 9, 17, 18, 19, 22, 23, 24, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 10, 11, 12, 15, 16 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 10, 11, 12, 15, 16, 20, 21 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 2, 3, 25, 26, 29, 30 |
| Часнок | 10, 11, 12 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 20, 21 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 25, 26 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 6, 7 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 2, 3, 10, 11, 12, 15, 16, 20, 21, 25, 26, 29, 30 |

| Лістапад | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 7, 14, 15, 19, 20, 23, 27, 28, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 8, 11, 12, 13, 21, 22 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш. зяленіўныя | 8, 11, 12, 13, 16, 17, 18, 21, 22 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 5, 25, 26 |
| Часнок | 11, 12, 13 |
| Радыска | 5, 24 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 5, 25, 26 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 5, 9, 10, 16, 17, 18 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 2, 3, 4, 5, 6, 30 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 8, 11, 12, 13, 16, 17, 18, 21, 22, 25, 26 |

| Снежань | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 6, 7, 11, 12, 13, 16, 17, 25, 26 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 9, 10, 19, 20 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і інш.зяленіўныя | 9, 10, 14, 15, 19, 20 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 2, 3, 4, 5, 23, 24, 29, 30 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 2, 3, 8, 14, 15, 29, 30 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 27, 28, 29, 30 |

